Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 3 лютага 1999 г. № 12 (543) Кошт свабодны

## Ці атрымае Беларусь 100 мільёнаў долараў?

*Гэта вырашыць місія МВФ*

Учора ў Мінск прыбыла місія Міжнароднага валютнага фонду. Мэтай візіту экспертаў МВФ з'яўляецца вывучэнне сітуацыі ў эканамічнай і, у першую чаргу, грашова-крэдытнай сферы рэспублікі. Ад іх заключэння залежыць, ці атрымае Беларусь надзвычайны кампенсацыйны крэдыт у памеры каля 100 мільёнаў долараў ЗША.

Нагадаем, што падчас папярэдняга візіту эксперты МВФ адзначалі сур'ёзны ўплыў на беларускую эканоміку фінансавага крызісу ў Расіі — такім чынам, у Беларусі ўзнікла тэарэтычная магчымасць атрымаць фінансавую дапамогу ад фонду. Эксперты будуць знаходзіцца ў Мінску да 13 лютага. 6 лютага да працы экспертаў далучыцца кіраўнік місіі, памочнік другога Еўрапейскага дэпартамента МВФ Томас Вульф. З яго прыездам у Мінск перамовы па прадастаўленні Беларусі згаданага крэдыту будуць праходзіць на больш высокім узроўні.

Тым часам, старшыня Нацбанка Беларусі Пётр Пракаповіч знаходзіцца ў Вашынгтоне (ЗША), дзе ён праводзіць сустрэчы з кіраўніцтвам МВФ. Мэта сустрэчаў — тая самая: атрыманне надзвычайнага крэдыту.

**Вольга ПАКРОЎСКАЯ**

## Лёс адзінай валюты будзе вырашацца ў Маскве

**Сустрэча кіраўнікоў цэнтральных банкаў Беларусі і Расіі Пятра Пракаповіча і Віктара Герашчанкі, што планавалася на пачатак лютага, хутчэй за ўсё, адбудзецца ў сярэдзіне альбо канцы месяца ў Маскве. Пра гэта паведаміла ўпраўленне інфармацыі Нацыянальнага банка Беларусі.**

Мяркуецца, што падчас сустрэчы будуць абмеркаваныя канцэпцыя і механізм увядзення адзінай валюты Саюза Беларусі і Расіі. Тым не менш, дагэтуль застаецца нявысветленым адно з ключавых пытанняў, а менавіта — якая гэта будзе валюта.

Вядома, што расійскі бок, у прыватнасці Цэнтральны банк Расіі, мяркуе ўвесці ў якасці адзінага грашовага сродку саюза расійскі рубель. У Нацыянальным банку Беларусі называюць гэты варыянт непрымальным.

*«Калі гаварыць пра заўтрашні дзень, то мы павінны думаць пра пашырэнне Саюза з тым, каб у яго ўвайшлі і іншыя краіны, як Украіна і Казахстан»,* — заявіў у апошнім тэлеінтэрв'ю старшыня праўлення Нацбанка Беларусі Пётр Пракаповіч. *—Таму... на наш погляд, было бы больш прымальным пачынаць адзіную валюту не з расійскага рубля, а менавіта са стварэння новай саюзнай валюты, каб вырашаць больш глабальныя пытанні з улікам перспектывы пашырэння Саюза».*

## Студзеньскія пенсіі

**Максімальны памер пенсіі ў Беларусі склаў у студзені 3 мільёны 653,8 тысячы рублёў.**

Калі пералічыць такую пенсію па афіцыйным курсе долара Нацыянальнага банка, то атрымаецца 31,2 долара. А вось ў пераліку па рынкавым курсе гэтая ж пенсія складзе ўсяго толькі 12,3 долара.

Чакаецца, што ў лютым максімальны памер пенсіі павялічыцца да 4 мільёнаў 572,7 тысячы рублёў — вырасце на 25%.

Для параўнання: у студзені 1998 года максімальны памер пенсіі раўняўся 37 доларам.

*БелаПАН*





IREX/ProMedia

*Камунальная служба клапоціцца пра горад.*

## Арэнда патаннела

**Брэсцкі аблвыканкам прыняў рашэнне пра зніжэнне арэнднай платы.**

Зроблена гэта з мэтай недапушчэння масавай стратнасці такіх прадпрыемстваў, а таксама ў сувязі з рэзкім ростам курсу долара ЗША, што ўстаноўлены Нацыянальным банкам Беларусі. Цяпер прадпрыемствы, што аказваюць бытавыя паслугі, паслугі гандлю і грамадскага харчавання, будуць аплачваць арэнду ў памеры мінімальных ставак арэнднай платы з улікам паніжаных каэфіцыентаў. Гэта выклікала незадаволенасць арандатараў, якія ў большасці свеёй плацяць па 6 долараў ЗША за 1 квадратны метр, — гэта самая высокая ў горадзе арэндная стаўка.

*БелаПАН*

## Газу дадуць менш

**Расійскае акцыянернае таварыства «Газпром» абвесціла аб 12-працэнтным скарачэнні паставак газу ў Беларусь. Кіраўнік «Газпрома» Рэм Вяхіраў спадзяецца, што гэтым ультыматумам ён прымусіць беларускі бок пагадзіцца на цэны за блакітнае паліва, якія былі б выгадныя расіянам.**

На пачатку 1999 года беларускі ўрад завінаваціўся «Газпрому» 320 мільёнаў долараў, і гэта пры тым, што абяцаў разлічыцца з даўгамі ды спраўна аплачваць штодзённыя пастаўкі. Не зрабіў ні першае, ні другое, у выніку доўг зараз перавышае ўжо 350 мільёнаў і кожны дзень расце.

Выйсце беларускія «стратэгі» знайшлі ў лямансе аб аб'яднанні ў адзіную дзяржаву і паралельных перамовах аб ільготных коштах на газ. Нашыя хацелі, каб ім прадавалі блакітнае паліва амаль як расійскім спажыўцам — па 40 долараў за тысячу кубаметраў. Каб выбіць такія прывілеі, на перамовы ў Маскву лялалі прэм'ер Сяргей Лінг і яго намеснік Васіль Даўгалёў, і быццам бы сапраўды дамовіліся. Ва ўсякім разе, у студзені афіцыйны друк Беларусі з захапленнем паведамляў, што расійскі газ для нас патаннее. Зараз высвятляецца, што ў фанфары трубілі зарана. Кіраўніцтва «Газпрома» не дае згоды на тыя кошты, прапанаваныя беларускім бокам. А з-за гэтага нельга падпісаць агульны пратакол аб пастаўках у Беларусь расійскага газу. Як стала вядома з дасведчаных крыніцаў, у гэтым пратаколе зафіксаваныя цвёрдыя ўмовы, пры якіх расіяне пагодзяцца прадаваць газ па 40 долараў за тысячу кубаметраў: па-першае, пры авансавых разліках за будучыя пастаўкі, а па-другое, калі ўжо ў першым квартале гэтага года Беларусь пагасіць сваю ранейшую запазычанасць.

Дарэчы, зразумець кіраўніцтва «Газпрома» не цяжка. Паводле расійскіх крыніцаў, гэты гігант забяспечвае ад 35 да 40 працэнтаў падатковых паступленняў у бюджэт Расіі. І апошнім часам сам завінаваціўся сваёй дзяржаве. У тым ліку і з-за таго, што мае на сваім карку не аднаго «халяўшчыка». Беларуская «дзірка» ў кішэні «Газпрома» хоць і не галоўная, але страты наносіць усё больш адчувальныя. Вось і спрабуе Рэм Вяхіраў пагрозамі аб скарачэнні паставак выбіць з беларусаў хоць якія грошы. Аднак ці ўдасца гэтая, дарэчы, ужо не першая, спроба паўплываць на нахабнага свяяка? У беларускай кампаніі «Белтрансгаз» кажуць: «Мы не губляем надзеяў на поспех, але ўсё залежыць не ад нас, а ад беларускага ўрада». Крыніцы ва ўрадзе паведамляюць, што з «Газпромам» ідзе інтэнсіўная перапіска, на перамовы да Вяхірава зноў збіраецца беларуская дэлегацыя. Між тым у «Газпроме» саступаць таксама не жадаюць.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Дэкрэт № 2 нерваў не сапсаваў

З панядзелка ў Беларусі пачалася абавязковая перарэгістрацыя палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў і прафсаюзаў, якая праводзіцца на падставе спецыяльнага прэзідэнцкага дэкрэта № 2 ад 26 студзеня. Згодна з дэкрэтам Лукашэнкі, мінімальная колькасць членаў партыі цяпер павінна складаць 1.000 чалавек, а прафсаюза — 500.

Спецыяльна створаная ўладамі камісія павінна да 1 ліпеня вырашыць, якую партыю ці прафсаюз варта рэгістраваць, а якую не. Узначаліў камісію галоўны прэзідэнцкі ідэолаг, віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін. У рабоце камісіі таксама ўдзельнічаюць міністр юстыцыі Генадзь Варанцоў, старшыня Камітэта па справах моладзі Аляксандр Пазняк, памочнік Лукашэнкі па асобых даручэннях Віктар Кучынскі, а таксама прадстаўнікі Савета бяспекі МУС, прэзідэнцкай адміністрацыі і іншых дзяржаўных структураў.

Прадстаўнікі многіх апазіцыйных партыяў і грамадскіх арганізацыяў лічаць гэты дэкрэт Лукашэнкі антыканстытуцыйным і збіраюцца дамагацца яго адмены. Кангрэс дэмакратычных сілаў, які нядаўна адбыўся ў Мінску, нават прыняў спецыяльную заяву, у якой адзначаецца, што дэкрэт *«знішчае асновы грамадзянскай супольнасці, пазбаўляе грамадзянаў права на свабоду аб'яднанняў і супярэчыць міжнародным абавязацельствам Беларусі ў галіне правоў чалавека».*

Аднак, робячы гнеўныя заявы супраць парушэння Лукашэнкам заканадаўства, лідэры амаль усіх асноўных палітычных сілаў краіны не губляюць спакою і ўпэўненасці. Палітыкі лічаць, што іхнія партыі без асаблівых праблемаў пройдуць прэзідэнцкую перарэгістрацыю. А лідэр «Народнай Грамады» Мікола Статкевіч нават выказаў меркаванне, што перарэгістрацыя паспрые кансалідацыі дэмакратычных сілаў. У цэлым жа палітыкі сыходзяцца на думцы, што рэгістрацыйны бар'ер хутчэй за ўсё пераадолеюць БНФ, АГП, «Народная Грамада» і дзве кампартыі. У ліку патэнцыйных кандыдатаў на паспяховую перарэгістрацыю таксама называюць БСДГ Станіслава Шушкевіча і ЛДПБ Сяргея Гайдукевіча.

На думку намесніка старшыні БНФ Анатоля Крыварота, гэтай перарэгістрацыяй Лукашэнка хоча адцягнуць палітычныя партыі ад падрыхтоўкі і ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах, абвешчаных нядаўна ВС. Аднак адзін з кіраўнікоў Народнага Фронту лічыць, што ў ягонай арганізацыі дастаткова сілаў на тое, каб і прайсці перарэгістрацыю, і рыхтавацца да выбараў 16 траўня.

Больш складаная сітуацыя з перарэгістрацыяй прафсаюзаў. Справа ў тым, што, згодна з прэзідэнцкім дэкрэтам, прафсаюз можа быць зарэгістраваны толькі пры наяўнасці яго структураў на прадпрыемствах розных рэгіёнаў краіны. Прычым, у прафсаюзную «пярвічку» павінна ўваходзіць не менш за 10 працэнтаў работнікаў прадпрыемства. Многія прадстаўнікі незалежнага рабочага руху лічаць, што гэтая норма спецыяльна ўведзеная ў дэкрэт, каб пазбавіць рэгістрацыі нядаўна заснаваныя прафсаюзы, якія пакуль не могуць стварыць шырока разгалінаваных структураў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# У беларускім войску не хапае афіцэраў

**На пачатак 1999 года Узброеныя Сілы Беларусі былі ўкамплектаваныя афіцэрамі на 83 працэнты. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення кадраў ваеннага ведамства Аляксандр Карнілаў.**

Па ягоных словах, сярэдні ўзрост афіцэра ў нацыянальным войску складае 33,4 года. Пры гэтым трэцяя частка ўсяго афіцэрскага складу — маладзей за 30 гадоў. Кожны другі беларускі афіцэр служыць у войску ад 10 да 19 гадоў, кожны пяты — ад 20 гадоў і больш. Па словах А.Карнілава, у войскі штогод накіроўваецца каля 600 выпускнікоў беларускай Ваеннай акадэміі і звыш за 300 афіцэраў у добраахвотным парадку прызываюцца ў войска з запасу. Разам з тым, войску істотна не хапае малодшых камандзіраў — напрыклад, сёння вакантная амаль палова пасадаў камандзіраў узводаў.

Пры гэтым колькасць афіцэраў, што звальняюцца з ваеннай службы, не скарачаецца. Штогод звальняецца больш за 1.300 афіцэраў, з якіх толькі каля 250 — «па плану». Звыш за 750 афіцэраў пакідаюць армію датэрмінова па ўласнай ініцыятыве і хваробе, каля 300 — «па ініцыятыве камандавання».

*БелаПАН*

## Рэзалюцыя Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі «Аб міжнародных дачыненнях»

Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі, канстатуючы,

— што палітыка прэзідэнта Лукашэнкі прывяла да таго, што сёння міжнародны аўтарытэт Беларусі самы нізкі ад часу аднаўлення незалежнасці;

— што ўзаемадачыненні Беларусі з замежнымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі з-за палітыкі беларускіх уладаў практычна разарваныя і гэта наносіць непапраўную шкоду інтарэсам дзяржавы і дабрабыту народа;

— што Беларусь сёння намаганнямі ўладаў успрымаецца міжнароднай супольнасцю як ненадзейны партнёр, парушальнік міжнародных пагадненняў, перш за ўсё ў галіне правоў чалавека;

— што знешняя палітыка беларускіх уладаў становіцца ўсё больш агрэсіўнай і непрадказальнай, небяспечнай для стабільнасці ў рэгіёне, —

**1.** Заклікае парламенты, урады і грамадскасць свету падтрымаць незалежнасць Беларусі і спадзяецца, што ўрады ЗША, Вялікабрытаніі і Расійскай Федэрацыі выканаюць свае абавязацельствы, якія яны сумесна прынялі 5 снежня 1994 года.

**2.** Заяўляе пра поўную юрыдычную неабгрунтаванасць любых міждзяржаўных пагадненняў, якія прыняты нелегітымнымі органамі ўлады і пасягаюць на незалежнасць Беларусі.

**3.** Заяўляе, што адказнасць за крызісны стан адносінаў Беларусі з міжнароднай супольнасцю, вынікам чаго з'яўляецца замарожванне супрацоўніцтва з важнейшымі міжнароднымі арганізацыямі, згортванне гандлёва-эканамічных адносінаў з развітымі краінамі, цалкам ляжыць на прэзідэнце і ўрадзе Беларусі.

**4.** Пацвярджае прыхільнасць дэмакратычных сілаў Беларусі прынцыпам дэмакратыі, павагі да правоў чалавека, эканамічных рэформаў, нейтралітэту, на грунце якіх павінны будавацца адносіны нашай дзяржавы са знешнім светам.

**5.** Пацвярджае зацікаўленасць дэмакратычных сілаў Беларусі ў нармалізацыі міждзяржаўных адносінаў з усімі краінамі, з суседнімі дзяржавамі на прынцыпах безумоўнай павагі да дзяржаўнага суверэнітэту, добрасуседства і ўзаемакарыснага супрацоўніцтва.

**6.** Выказвае ўдзячнасць міжнародным арганізацыям, парламентам, урадам і грамадскасці дэмакратычных дзяржаваў за падтрымку прынцыпаў дэмакратыі ў Беларусі і непрызнанне дыктатарскіх тэндэнцыяў беларускага кіраўніцтва.

**7.** Заклікае міжнародную супольнасць развіваць адносіны з дэмакратычнымі сіламі Беларусі для стварэння асновы будучых адносінаў буйнамаштабнага і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

ЗАМЕЖЖА

# Хусейн абяцае прэмію

**Прэзідэнт Ірака Садам Хусейн паабяцаў узнагароду ў памеры 25 мільёнаў іракскіх дынараў (больш за 14 тысяч долараў) кожнаму салдату іракскай арміі, які зможа збіць брытанскі ці амерыканскі самалёт. Аб гэтым паведаміла недзяржаўная іракская газета «Набд аль-Шабаб» («Пульс моладзі»).**




*На мапе Ірака заштрыхаваныя зоны, дзе, паводле рашэння ААН, пралёт іракскай авіяцыі забаронены.*

Варта зазначыць, што для іракскага вайскоўца 25 мільёнаў дынараў — сума, якую нават цяжка ўявіць. Дарэчы, Садам Хусейн паабяцаў і іншыя ўзнагароды вайскоўцам. Напрыклад, снайпер, які саб'е варожую ракету, атрымае дзесяць мільёнаў дынараў, а той, хто возьме ў палон амерыканскага ці брытанскага пілота, атрымае пяць мільёнаў дынараў — таксама зусім не кепска.

Нагадаем, што з часоў вайны ў Персідскай затоцы ў 1991 годзе, калі амерыканскія войскі спрабавалі ліквідаваць рэжым Садама Хусейна, паводле рашэння ААН, у Іраку былі ўстаноўленыя зоны, дзе пралёт іракскіх самалётаў забаронены. Гэтыя зоны патрулююцца сумесна амерыканскімі і брытанскімі паветранымі сіламі. Тым не менш, цяпер іракскія ўлады адмаўляюцца падпарадкоўвацца рашэнням ААН і амаль кожны дзень абстрэльваюць самалёты саюзнікаў. У адказ тыя бамбардзіруюць месцы, дзе, магчыма, знаходзяцца іракскія зенітныя комплексы. У выніку бамбардзіровак гінуць як вайскоўцы, так і цывільныя грамадзяне Ірака.

**Міхась КАРПОВІЧ**

НАШЫ БАЖНІЦЫ



## Пра пагрозу дзяржаўнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь

25 снежня 1998 года прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Б.Ельцын і прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка заключылі антыканстытуцыйны пакт, які пагражае незалежнасці беларускай дзяржавы і фактычна вядзе да анексіі Беларусі Расіяй. Гэты пакт ёсць пагроза існаванню беларускай нацыі.

Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі,

— дэкларуючы сваю прыхільнасць да старадаўніх традыцыяў беларускай дзяржаўнасці, да палажэнняў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь ад 27 ліпеня 1990 года і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года,

— пацвярджаючы нязменнасць прынцыпаў дэмакратычнай, прававой, сацыяльнай дзяржавы і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь,

— грунтуючыся на міжнародных абавязацельствах Рэспублікі Беларусь і ўсведамляючы сваю адказнасць перад нашчадкамі за захаванне нацыянальнай дзяржаўнасці і культурнай спадчыны,

Заяўляе:

**1.** Пра неперахоўдзячую каштоўнасць дзяржаўнасці, незалежнасці Рэспублікі Беларусь як неабходнай умовы развіцця дзяржавы і беларускай нацыі;

**2.** Пра неабходнасць найхутчэйшай адстаўкі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, як палітыка, які пайшоў на здраду нацыянальным інтарэсам, паставіў дзяржаўнасць Беларусі на мяжу знішчэння, давёў краіну да сацыяльнай варожасці, жабрацтва і міжнароднай ізаляцыі;

**3.** Пра неабходнасць працягу працы спецыяльнай камісіі Вярхоўнага Савета XIII склікання па прававой ацэнцы дзейнасці прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

**4.** Пра неабходнасць поўнага аднаўлення легітымных органаў дзяржаўнай улады праз правядзенне свабодных, дэмакратычных выбараў у вызначаныя Канстытуцыяй тэрміны;

**5.** Пра сваю рашучасць бараніць незалежнасць, дзяржаўнасць і суверэнітэт краіны, супрацьстаяць анексіі Беларусі ўсімі даступнымі сродкамі.

Абавязак кожнага грамадзяніна Беларусі — бараніць сваю дзяржаву, сваю будучыню!

МУЖЧЫНСКІЯ РАЗМОВЫ

# Аўтобусная палітыка

**Людзі сёння сталі больш шчырымі, разняволенымі, значна смялейшымі. Не баяцца, як некалі было, гаварыць, калі чужыя могуць іх пачуць, выказваць свае меркаванні, адрозныя ад афіцыйна-прапагандысцкіх, крытыкаваць або нават лаяць. Зрэшты, гэта датычыць толькі часткі людзей. Асабіста я кпіць з уладаў у тралейбусе не буду, замест гэтага я магу выкласці свае думкі на паперы. Але некаторым проста карціць выказацца ўголас. Натура ў іх, можа, такая. Самае важнае, аднак, што яны ўжо перамаглі свой страх, унутранага цэнзара, выхаванага у кожным з нас у свой час роднай савецкай уладай.**

Пра што ж гавораць жыхары майго горада над Нёманам у грамадскім, напрыклад, транспарце? Днямі еду я ў аўтобусе гарадскім і чую паміж двума мужчынамі пажылага веку цікавую размову. *«Кажуць, —* гаворыць адзін, *— Лукашэнку помнік паставяць на гэтым месцы».* Другі адказвае: *«А што, могуць паставіць, з бронзы. Партрэтаў вунь ужо панавешалі». «Усё пра інтэграцыю не нагаворыцца, —* працягвае першы. *— І гэтыя ў Гомелі сустракаліся, цяпер у нас збяруцца».* Меўся на ўвазе «супольны» руска-беларускі парламент, які ў траўні правядзе паседжанне ў Гродне. *«Прыедуць, канъячку пап'юць, як заўжды, і раз'едуцца», —* адказаў другі размоўнік і выйшаў на наступным прыпынку.

Вось такую рэпутацыю маюць сярод некаторых гродзенцаў руска-беларускія дэпутаты. Хоць парламент усё ж, напэўна, патрэбны не толькі, каб, як калісьці казалі, *«наш народ піў каньяк вуснамі сваіх лепшых прадстаўнікоў».* Ускосна пра гэта могуць сведчыць прэзідэнцкія словы, сказаныя ім у мінулым месяцы ў Маскве: *«Хопіць нам займацца туалетнай паперай на ўзроўні прэзідэнтаў».* Сапраўды, не «царская» гэта справа, дзеля яе ёсць і падначаленыя, той жа «вясельны» парламент, скажам.



Зрэшты, гэтае меркаванне пра дэпутатаў магло быць і выпадковым. Аднак, зноўтакі ў аўтобусе, мне давялося пачуць штосьці падобнае, але ўжо толькі пра сваіх. Размаўлялі мужчыны гадоў па сорак з лішкам. Ва ўсякім разе адзін з іх меў дачыненне да камп'ютэраў. Ён сказаў, што заснавальнік самай вядомай і багатай у свеце камп'ютэрнай фірмы Біл Гейтс пра сваю звышпрыбытковую працу кажа так: гэта дзякуючы таму, што амерыканскі парламент здолеў стварыць вельмі разумныя законы, якія не перашкаджаюць, а дапамагаюць працаваць. *«А нашыя «палатнікі» нічога не могуць, —* працягваў ён. *— Паглядзі, якая ў амерыканцаў канстытуцыя — лепшая ў свеце! Я б нашых разам з Малафеевым пасяліў у чарнобыльскай зоне і плотам высокім абгарадзіў, а вакол сабак пусціў бы».*

*«Гэты»* таксама вялікі *«спецыяліст»,* за што ні возьмецца, *—* падтрымаў прыяцеля другі мужчына. *— Разваліў эканоміку і — у Маскву: бярыце нас цёпленькімі, голымі рукамі».* Далей, прабачце, абраннікаў народа зусім аблаялі. Прычым чамусьці асабліва дасталося небараку Малафееву, які не мае ніякай рэальнай улады.

Канечне, ёсць і такія, хто верыць кожнаму слову, пачутаму з тэлевізара. Асабліва, калі вусаты мужчына мэтанакіравана палохае гледачоў «натаўскай агрэсіяй». Едуць днямі ў аўтобусе два мужчыны ў салідным веку. Адзін ажно захлынаецца: *«Гэтыя ўсякія — Літва там, Эстонія, — толькі і глядзяць, каб нашую рэспубліку захапіць, заняволіць, рабамі нас зрабіць. Ужо НАТА каля самага Гродна. Трэба даставаць зброю, мы — рэспубліка партызанская, мы ім пакажам». «Ды што ты ім пакажаш? —* гаворыць другі. *— Каму ты патрэбны, жабрак! Ты на сваю пенсію бутэльку гарэлкі купіць баішся, бо на закуску не хопіць. А каўбаса сёння па шэсцьсот тысяч у магазіне. У Літве сярэдняя зарплата, па-мойму, долараў 260, а ў Эстоніі яшчэ больш. А ў цябе пенсія, відаць, долараў пяць якіх-небудзь будзе».*

Вось такія размовы адбываюцца паміж пасажырамі. Аднак народныя абраннікі грамадскім транспартам не карыстаюцца і нічога гэтага не чуюць і не ведаюць. Ды, напэўна, і ведаць не хочуць.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

АРМІЯ БЕЗ МІФАЎ

# Лепш гульня, чым вайна

Пішу ў адказ «патриоту Родины», што напісаў «Не легендарная и победимая». Па-беларуску чалавек і паўслова не ведае, а лезе ў патрыёты. Чым яму армія нашкодзіла? Хіба армія яго ў Афганістан пасылала? Хто ў арміі што пытаецца? У вайну каб не савецкая армія, дык ужо па-нямецку спявалі б, што бацька Нёман — нямецкая рака. Мне армія дарагая, я ёй аддаў 25 гадоў жыцця, пасля службы застаўся, таму ў горадзе жыву, а без службы піў бы бімбер за калгасным кароўнікам, як мае аднагодкі. Добра, што хлопцаў вясковых бяруць у армію, у вялікай арміі магчымасці для іх будуць шырэйшыя. Я, дзякаваць богу, і Арменію пабачыў, і ў Германіі пабываў. А зараз нашыя кадравыя далей сваіх дывізіённых палігонаў з беларускімі камарамі ды гарадка нічога не бачыць. Раней савецкай арміі ва ўсім свеце баяліся, бо ракеты мела, а зараз беларускай арміі засталіся толькі дзіркі ў зямлі ад тых ракетаў. Нікога не запалохаем гэтымі дзіркамі. Гуляем у армію. Але гэта лепш, чым ваяваць, як Расія робіць.



**ЛЯВОНЧЫК М..**
*прапаршчык, Мінск*

## Колхозник молчит всегда

Какого улучшения нашему народу ждать, когда президент развел милиции 120 тысяч человек и дает зарплату каждому по 7—10 и больше млн. рублей, а тем труженикам сельского хозяйства, которые кормят народ, — всего по 200—600 тысяч рублей. Где же справедливость? Есть ли право у нашего президента содержать столько милиции, когда в сельском хозяйстве некому работать. Столько милиции в городах — это не иначе как от страха потерять власть. Нет сравнения в зарплатах милиционера и колхозника, который веками молчит, словно не имеющий разума. Правители знают это и держат его за раба. Мы так никогда не выйдем из кризиса, если рабочий человек будет голодным.

**В.ЗАВАДСКИЙ,**
*учитель*

ОБРАЗ ВРАГА

## Злого Щелкунчика вновь выводят на сцену

Тезис нашей официальной пропаганды, что главный враг Беларуси — НАТО, мало серьёзен по своей сути, если его применять конкретно к территории нашей Республики, а не к Союзу Славянских государств, в который Беларусь стремится, как соломина в водоворот. Уместно вспомнить сказку, где мальчик-с-пальчик желает сравняться и победить гиганта. Мир в геополитическом плане всегда был и будет ареной конкурентной борьбы, прежде всего мощных, ведущих стран мира, к коим Беларусь никак не относится.

Озвучивая умозаключения о НАТО, президент Лукашенко говорит «не своим голосом», похоже, что он читает с листа, написанного в Москве, мнение определенных кругов России. Для этих кругов, страдающих многовековой «имперской болезнью», НАТО действительно представляет серьёзную опасность. В 19-ом веке Российское государство превратилось в мировую империю с огромными территориями на евро-азиатском и американском (Аляска, Калифорния) континентах. Но, по закону справедливости, все империи поздно ли, рано ли разваливаются.

Именно этот процесс испытал СССР, теперь он перекинулся на федеративную Россию. Где предел этого развала и к каким конфликтам он приведет — одному богу известно. Имперская Россия боится за свои территории, поэтому НАТО ей очень страшен. Но Россия может стать и демократическим государством. В таком качестве Россия уже получала предложения сотрудничать с НАТО ради мира. Пока что этому мешают претензии России на роль сверхдержавы. Но при чем здесь Беларусь? У России свои стратегические интересы, а у Беларуси должны быть свои — соответствующие ее небольшой территории, малым людским и финансовым ресурсам. Мы со своим полуголодным населением и полуработающей экономикой представляем сейчас исключительно объект соболезнования, и НАТО для молодого белорусского государства хоть и не близкий друг, но никак не враг.

Нам никакой пользы от того, что пугало отряхнули от пыли и воткнули в землю в стороне заката, не будет.

**В. МИХАЛЬКЕВИЧ,**
*Могилёв*

ПАЛІТЫКА

## Нацыянальная ідэя – перажыць гэтую ўладу

Уявіце сабе, што ў свеце існуе столькі нацыянальных ідэяў, колькі ўвогуле існуе нацыяў. Гэта ж будзе мітусня не толькі ў вачах ад сцягоў, але і ў думках ад ідэяў. А што рабіць таму чалавеку, якога Бог не ўразуміў нарадзіцца ў ліку тых, хто складае тытульную нацыю. Дзе ён знойдзе свой прытулак?

Калі каму і патрэбны пошукі нацыянальнай ідэі, дык гэта спадару Лукашэнку. Бо наогул ідэя знаходзіцца ў яго кішэні. Хабарнікаў ён ужо «перамог», народ (і нацыя ў тым ліку) у галечы, шукае «ворага» і ідзе зноў ва ўладу. А пра «ворага» ўжо паклапоціцца апазіцыя, таму што нацыянальнае ў палітыцы — гэта вялікая недарэчнасць. Чым не падарунак спадару прэзідэнту. Хай сабе спрачаюцца, і чым болей, тым лепей.

А пакуль спрэчкі скончылі ды абвясцілі нацыянальную ідэю — нацыя знікла. Ад бяспраўя, гарэлкі і забруджанага асяроддзя. Засталіся амаль толькі чыноўнікі, якіх ніякая халера не возьме, ды трошкі ідэалістаў — тых, хто шукаў ідэю. Сумнае відовішча. Але не зусім. Бо ёсць яшчэ народ, нешта іншае як нацыя, у сэнсе жыццяздольнасці. Дзе і памяркоўны беларус, як і большасць людзей у свеце, штодзённа, з веку ў век клапоціцца пра ўласную ідэю. Не заўсёды асэнсаваную (вось у чым яму трэба дапамагчы), але трывалую, з якой ён перажыў яшчэ панства, потым саветы, потым перабудову, перажыве дасць Бог і гэтую ўладу. Вось толькі з якімі ахвярамі?

**У.ТАНСІЧОЎ**
*Шклоў*

## Вопрос на референдум

Наблюдая за событиями в нашей Беларуси, да и в России, испытывая на себе всю тяжесть положения, я уже не жду ни от власть предержащих, ни от оппозиции каких-либо положительных действий.

Одни зафиксировались законом на долгое существование, другие ждут, когда терпение народа лопнет или же кончится срок правления нынешнего правителя, чтобы самим взойти на престол. На этом заканчивается разница радения за народ обоих течений. Я не рассчитываю на эти политические силы. Вариантов изменения ситуации полно. Вот давно не было у нас референдумов. Я предлагаю срочно провести всенародный референдум, а результаты его узаконить.

Вот какой вопрос должен быть вынесен на всенародное обсуждение:

**«Согласны ли Вы внести в Конституцию следующую статью: «Президент Республики или лицо, исполняющее его обязанности, должен в течение недели оставить пост, если при его правлении хоть на ноль целых одну миллиардную процента наступило ухудшение жизни избравшего его народа. Власть переходит к тому из оппонентов на выборах, кто был вторым по количеству поданых голосов в окончательном туре выборов. А при неспособности и этого лица вести заботливую политику, новый президент уходит в отставку и назначаются новые выборы».**

Тогда мы не будем заложниками посредственности или нарушителя законов.

**В.КРУШКИН,**
*Могилев*

## Пенсионеры не спасут

Скоро кончаются пять лет, как президент Лукашенко со своей командой стоит у руля. Когда послушаешь или посмотришь по телевизору, вроде эта команда не покладая рук трудится. А результаты? Никаких. Каждый день наблюдается рост цен. Взвешивая все «за» и «против», я пришел к выводу, что президент Лукашенко со своей командой должен уйти. За границей такое руководство само уходит? Не только у меня, а у всех белорусов терпенье уже кончается. Недавно десятки тысяч минчан, вышедших на митинг протеста, высказали свое негодование работой нынешних властей. Вот я, например, пенсионер. Получаю 3 млн. 300 тысяч рублей. Смогу ли я прожить при таких ценах? Хотя и ожидается прибавление к пенсии 24-25 процентов. Что я могу купить за свою пенсию? Только то, что покупают минчане для собак. Хватит. Один выход — президентские выборы. Пенсионеры, многие из которых сегодня тоже против такой жизни, не спасут президента. Мы с удовольствием выйдем на предстоящие выборы и скажем нет ему и его команде.

**Ан. РОМАНОВИЧ,**
*Минск*

НАШЫ МАЦІ



## Терпеливо ждем свободы

За пять лет своего президентства «всенародноизбранный» довел страну до такого состояния, при котором ни один здравомыслящий гражданин Беларуси уже не станет отрицать наличие всех тех «прелестей» социализма а-ля Лукашенко, которые должны заставить нас задуматься о своей роли в истории.

Хотелось бы обратиться прежде всего к тем, кто все еще пытается возродить в себе веру и надежду на нормальную жизнь при нынешнем президенте. Сколько вы еще будете верить всем обещаниям и рассказам о грядущей, стоит лишь чуть-чуть потерпеть, райской жизни?

Вас не унижает нищенская зарплата и очереди за продуктами? Вы не замечаете жирующих, проворовавшихся начальников всех уровней? Вас не пугает государственная защита произвола, беззакония и коррупции? Не стыдно ли, что весь мир воспринимает нас, белорусов, тупыми и ленивыми — за то, что мы терпим диктаторский режим?! Не надоело ли быть рабами?!

Задумайтесь! Пора научиться уважать в самих себе Человека! И чем больше нас, гордых и уверенных в своей правоте, придет на президентские выборы летом этого года, тем раньше мы сможем вздохнуть: «Мы — люди! Мы — белорусы! Мы свободны!»

**О.КАДУШКИН,**
*г.Минск*

# Вирус гриппа начинает охоту

**Мы давно уже привыкли к ежегодным вспышкам гриппа, и редкий горожанин торопится заранее сделать прививку, мало кто из нас закаляет свой организм, поддерживая в боевом состоянии свою иммунную систему. Подумаешь, грипп — думаем мы, а дети только рады объявлению карантина в школе: гриппозную эпидемию они расценивают как еще одни каникулы в подарок.**

Между тем грипп как раз и отличается от прочих двухсот разновидностей простудных инфекций, что «бьет» по самым слабым местам в организме. Начинается все с неожиданного резкого подъема температуры, ломоты в суставах, потери аппетита — все это признаки отравления организма: вирусы попадают на слизистую носоглотки и, обманув защитную систему организма, внедряются в здоровые клетки и начинают там размножаться.

Многие погибают от гриппозных осложнений, хотя такие случаи и не регистрируются. Дело в том, что вирус вызывает в организме микрокровоизлияния, приводя к обострениям сердечно-сосудистых недугов: человек может получить инфаркт, и никто не подумает, что повинен в этом коварный вирус.

Все лекарственные препараты, что предлагают нам сегодня в аптеках, лишь снимают симптомы гриппа или сбивают температуру. Последнее врачи давно не рекомендуют делать: замечено, что в этом году грипп проходит с очень высокой температурой, но подъем до 38 с небольшим градусов лучше перетерпите и не мешайте организму бороться с вирусным вторжением.

Чем помочь своей иммунной системе, если вы уже заболели? Ни в коем случае не ходите на работу или на учебу и вообще не появляйтесь на улице дней десять. Забудьте на время про баню (при гриппе туда дорога заказана). Отдыхайте от суеты, пейте побольше жидкости (клюквенных или смородиновых морсов, чая с малиной, медом, лимоном), а ешьте (особенно мучных изделий) поменьше. Попросите родных или друзей делать ежедневно влажную уборку, почаще менять вам постельное белье, а посуду обрабатывать крутым кипятком — просто горячая вода вирусу не страшна.

При сильном кашле пропустите через мясорубку луковицу, отожмите сок, смешайте с равным количеством меда и принимайте по столовой ложке два раза в день.

При хроническом насморке одну чайную ложку настойки календулы смешайте с половиной литра теплой подсоленной воды и промывайте нос (наклонив голову, носом втянуть раствор и выпустить его изо рта).

Если долго держится очень высокая температура, возникает спутанность сознания, бред, срочно вызывайте врача.

Ну а тем, кто не хочет быть застигнутым вирусом врасплох, напоминаем, что хорошо для профилактики съедать по 2—3 яблока в день, чаще проветривать комнату, в которой долгое время находитесь, мыть руки и не трогать себя за нос.

**Б.П.**

ПАМЯТКА ДЗЁН



# Свисток против оленей

**Столкновения с дикими животными на сельских дорогах — настоящий бич для автомобилистов в лесистых районах США. Встреча с крупным животным, например с оленем, может повлечь за собой существенные повреждения кузова, а иногда и человеческие жертвы, не говоря уж о гибели животного.**

Чтобы отпугивать животных от дороги, американская фирма «Кобб» выпустила специальные ультразвуковые свистки. Пара таких свистков укрепляется на переднем бампере. При скорости свыше 50 километров в час они начинают издавать пронзительный ультразвуковой свист, незаметный для человека, но пугающий животных.

**Н.Ж.**

# Большой нос за 300 долларов

**Бум пластической хирургии в Америке начался в 1992 году.**

В 1996 году было сделано 14.000 разнообразных косметических операций. А в прошлом году количество таких операций достигло уже 700.000. Причем теперь речь идет уже не только о взрослых. Количество подростков, которые осаждают ныне клиники пластической хирургии, достигает невиданных ранее масштабов, и перед американскими докторами стоит неразрешимая этико-юридическая проблема по отваживанию молодежи от своих рабочих мест. Только в 1992 году не доросшие до права голосовать подростки обзавелись 5.519 новыми носами, 3.024 новыми ушами, в 978 случаях осчастливили себя новой грудью.

Правда, количество желающих обзавестись новыми носами в последнее время несколько пошло на убыль (возможно, не последнюю роль в этом сыграло исключительно оживленное обсуждение нового носа Полы Джонс, которому Америка предалась даже с большим воодушевлением, чем исследованием гардероба Моники Левински). Зато в Китае количество таких желающих растет в геометрической прогрессии. Причем, если в США в основном сражаются с носом в форме картошки и стараются приобрести ровный и изящный обонятельный аппарат, то в Китае прежде всего ценится его размер: чем больше, тем лучше. Операция по увеличению носа вдвое стоит в Пекине всего 300 долларов — эквивалент среднемесячной зарплаты. Чаще всего за подобной помощью обращаются в возрасте между 25 и 30 годами, причем как женщины, так и мужчины. 26-летняя Ланг Веньо надеется, что большой нос поможет ей... обзавестись парнем. *«Две мои подружки сделали такие операции, и сейчас уже благополучно вышли замуж»*, — сообщает она западным корреспондентам. 28-летний Вен Бяо тоже считает, что, увеличив свой нос, он увеличит свои шансы обзавестись хорошей женой.

Впрочем, по распространенности операции на носу занимают второе место среди пластических операций в Китае. Чаще всего китайцы изменяют разрез глаз, чтобы иметь, как они выражаются, «более западный вид». Причем делают они это ради того, чтобы получить престижную и высокооплачиваемую работу в западных фирмах. А на подходе бум операций по увеличению объема груди.

Потребление косметических средств в Китае возросло с 1 миллиарда долларов в 1991 году до 4,2 миллиарда в 1996 году.

**В.П.**

# Наш «железный» земляк

## Тюрьма стала для него всем

Как бороться с контрреволюционерами, товарищ Дзержинский знал. Тюрьма стала для него всем. Здесь он провел в общей сложности одиннадцать лет — столько же, сколько в гимназии. Тюрьма помогла оформиться этой пылкой, романтичной и дремучей натуре. Нервный юноша, страстно любимый красавицей матерью, религиозный фанатик, в тюрьме он *«созрел в муках одиночества и тоске по миру и по жизни»*...

«Но, когда я в сознании своем, в сердце своем взвешиваю то, чего лишила и что дала мне тюрьма, я твердо знаю, что не проклинаю ни судьбы моей, ни долгих лет тюрьмы: это результат жажды свободы и тоски по красоте и справедливости...», — писал Дзержинский. Тюрьма научила Дзержинского бороться с врагами революции и прочей сволочью, к которой, в принципе, можно было отнести кого угодно. «Обыск производить внезапно, сразу во всех камерах и так, чтобы находящиеся в одной не могли предупредить других. Забирать всю письменную литературу, главным образом небольшие листки на папиросной бумаге и в виде писем. Искать тщательно на местах, где стоят параши, в оконных рамах, в штукатурке» — эту инструкцию по обыскам, допросам и правилам содержания граждан в советских тюрьмах разрабатывал мужественный сиделец Дзержинский.

## Горячка красная

По красочному выражению чекиста Лациса, у Дзержинского «единственной дамой сердца была пролетарская революция». (За все годы жизни Феликс Дзержинский провел с женой Соней, которую раз и навсегда потряс тюремными подвигами, и сыном Ясиком куда меньше времени, чем, например, со своим соратником по ЧК палачом Петерсом.) Он вообще был чужд плотских радостей. Член коллегии ВЧК Другов вспоминает о Дзержинском: даже *«сон и еда были для него неприятной необходимостью, о которой он никогда не помнил»*. Сам Дзержинский в 1924-м с гордостью признался, что в годы революции «ни разу не побывал в театре и кинематографе, если не считать просмотра фильма о похоронах Ильича».

Когда-то юный Феликс Дзержинский писал братуатеисту: «Бог в сердце... а если бы я когда-нибудь пришел к выводу, что Бога нет, то пустил бы себе пулю в лоб!». С годами место Бога в сердце занял Ленин. Только Ленин полностью поддерживал неистовство Дзержинского: он сам горел той же горячкой.

Кому бы еще Ленин доверил раскрутить «заговор послов»? Это шумное дело было чудовищно прямолинейной провокацией ЧК. Двое подручных Дзержинского — латыши Буйкис и Спрогис — отправились в Петроград, где, представляясь офицерами полка охраны Кремля, убеждали всех, что латышам-националистам в полку до предела ненавистно большевистское иго. С тем они и получили рекомендации к английскому посланнику в Москве Р.Л. Локкарту. Чтобы совсем убедить Локкарта, к нему запустили еще и Берзина, командира латышского дивизиона охраны Кремля. Локкарт поверил, что Берзин готов арестовать кремлевских хозяев, — ловушка «дела послов» захлопнулась. В такой провокации Ленин мог довериться только Дзержинскому. Любой другой соратник мог и впрямь попытаться захватить власть.



*Дзержинский среди высших чинов ЧК.*

## Гос-страх

После переворота большевистское руководство в панике осознало, что управлять страной оно не в состоянии. Собственно, то же повторилось и семьдесят лет спустя. В декабре 1917-го в Петербурге на Гороховой, 2, в помещении градоначальника, вся канцелярия ВЧК была еще в портфеле Дзержинского, а вся касса — в кармане казначея Якова Петерса. А в самом начале 1918-го в Москве Дзержинский под свое ведомство занял грандиозные дома страховых обществ на Лубянке с обширными подвалами.

Глава и создатель небывалой карательной машины был совершенно искренен в своих романтических лозунгах и призывах типа: *«Быть светлым лучом для других, самому излучать свет — вот высшее счастье для человека...»*. И постоянные заверения в необходимости «чистых рук», «душевной чистоплотности» — все всерьез. Подбор членов коллегии ВЧК, начальников особых отделов и практиков-чекистов Феликс начинал сам, пользуясь безошибочным чутьем опытного арестанта. Вот одни из самых первых: Петерс, Лацис, Эйдук, Ягода, Агранов, Атарбеков, Бела Кун, Саенко, Фельдман, Бокий... Это их имена в нашей истории кровоточили понятиями: садист-палач, массовые убийства, расправа над народом. Яков Петерс, правая рука Дзержинского, — латыш-проходимец, выдернутый в историю властной рукой Феликса. Став одним из всесильных шефов ЧК, кроме страсти к убийствам, заразился желанием исторической известности. Этому тщеславию мы обязаны дошедшими до нас многочисленными его изречениями вроде: *«Всякая попытка контрреволюции поднять голову встретит такую расправу, перед которой побледнеет все, что понимается под красным террором»*. Он прошелся зверствами по сопротивлявшимся большевикам землям — Дону, Киеву, Кронштадту, Тамбову... Вторым ближайшим подручным Дзержинского стал Мартин Судрабс, латыш, получивший всероссийскую кровавую известность под псевдонимом Лацис. *«...Установившиеся обычаи войны, по которым пленные не расстреливаются, — все это смешно: вырезать всех раненных в боях против тебя — вот закон гражданской войны»*. С такими находками Лацис прошелся по Украине. Психически ненормальный Кедров изобрел более «экономичный» способ расправы с врагами — затопление на баржах. Бела Кун после взятия Крыма расстрелял там около 50 тысяч человек и мотивировал это так: *«Товарищ Троцкий сказал, что не приедет в Крым до тех пор, пока хоть один контрреволюционер останется в Крыму»*...

*«Профиль»*

*(Печатается в сокращении)*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 505 Нумар падпісаны ў друк 02/02/99 (15:00) Наклад — 17.460